[8] Thatcher M. The role of the polytechnics [Electronic resource]. URL: http://www.margaretthatcher.org/document/101716 (date of access: 14.03.2012).

[9] Капитонова Н. К. Маргарет Тэтчер: человек и политик. С. 183.

[10] См.: Невский С. И. Европа в эпоху постиндустриальной трансформации: экономика и экономическая политика стран Западной Европы в 1970-е – начале 1990-х гг. М., 2005. С. 50.

[11] Eason G. Callaghan's great education debate [Electronic resource]. URL: http://news.bbc.co.uk/2/hi/uk_news/education/4386373.stm (date of access: 14.09.2013).

[12] Callaghan J. A rational debate based on the facts [Electronic resource]. URL: http://www.educationengland.org.uk/documents/speeches/1976ruskin.html (date of access: 14.09.2013).

[13] Ibid.

[14] Ibid.

[15] См.: Blair T. The agenda for a generation [Electronic resource]. URL: http://www.educationengland.org.uk/documents/speeches/1996ruskin.html (date of access: 14.09.2013).

[16] См.: Matters for Discussion (1977–82) [Electronic resource]. URL: http://www.educationengland.org.uk/documents/hmi-discussion/index.html (date of access: 11.06.2012).

[17] См.: Youth Opportunity Programme (YOP) [Electronic resource]. URL: http://www.youth-employment-inventory.org/inventory/view/234 (date of access: 14.09.2013).

[18] См.: Raffe D. Education, Employment and the Youth Opportunities Programme: Some Sociological Perspectives // Oxford Review of Education. 1981. Vol. 7, № 3. P. 211.

[19] См.: Foreword. Conservative Party General Election Manifesto 1979 [Electronic resource]. URL: http: //www. conservativemanifesto.com/ 1979 (date of access: 10.12.2008).

[20] Gillard D. Preparing the ground [Electronic resource]. URL: http://www.educationengland.org.uk/history/chapter08.html (date of access: 11.06.2012).

[21] См.: Education Act 1979 [Electronic resource]. URL: http://www.legislation.gov.uk/ukpga/1979/49/section/1/enacted (date of access: 11.06.2012).

Поступила в редакцию 26.12.2013.

***Анна Александровна Воронец*** – аспирантка кафедры истории нового и новейшего времени. Научный руководитель – кандидат исторических наук, доцент кафедры истории нового и новейшего времени Н. Е. Орлова.

*УДК 93/94:378.4(476-25).096(091)*

*У. А. СОСНА, А. А. ЯНОЎСКІ*

# АДКРЫВАЮЧЫ НОВЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ: БЕЛАРУСКАЯ САСТАЎЛЯЮЧАЯ Ў ДЗЕЙНАСЦІ ГІСТАРЫЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА БДУ (канец 1980-х – першая палова 1990-х гг.)

Показано, что национальное возрождение конца 1980-х – первой половины 1990-х гг. вызвало существенные изменения в учебно-воспитательной и научно-исследовательской сферах на историческом факультете Белорусского государственного университета, направленные на изучение и преподавание истории таким образом, чтобы студенты, все жители Беларуси могли осознать себя в качестве субъекта европейского и мирового исторического процесса. Отмечается также, что значительно расширилось преподавание истории на белорусском языке, углубился курс истории Беларуси, были введены новые белорусоведческие дисциплины, обновилось их содержательное наполнение. Открыты новые специальности, оптимизирована кафедральная структура, созданы лаборатории. Стали свободными и тематически разнообразными научные исследования, активизировались международные контакты. Делается вывод, что эти изменения открыли новые горизонты в педагогической, научной и общественно-культурной деятельности, которые в своей основе выдержали испытание временем и сохранили перспективу.

***Ключевые слова:*** Белорусский государственный университет; исторический факультет; национальное возрождение; учебный процесс; научные исследования.

The national renaissance of the end of the 1980s – first half of the 1990s gave rise to the essential changes in the educational and research processes at the Faculty of History of Belarusian State University. Both teaching of history and historical research were aimed at the bringing up of the consciousness that the Belarusians are the subjects of the European and world historical processes. The teaching process was put into Belarusian, the course of Belarusian history was extended, the new Belarusian specialties appeared and their content was essentially renewed. The new specialties and laboratories were created and the departments were restructured. The researchers were free to choose the sphere of their scientific interests and participate in the international academic activities. The new opportunities in pedagogical, scientific, social and cultural activities came into existence. Basically they have been preserved until nowadays.

***Key words:*** Belarusian State University; Faculty of History; national renaissance; teaching process; scientific research.

На мяжы 1980–90-х гг. спачатку аслабеў, а потым і знік партыйна-ідэалагічны дыктат над гуманітарнай сферай, што адкрыла шырокія магчымасці для адраджэння нацыянальна-культурных працэсаў у працяг традыцый беларусізацыі 1920-х гг. Не застаўся ўбаку ад актывізацыі грамадскіх памкненняў да аднаўлення жыццёвых і палітычных небасхілаў і, можа, нават у пэўнай меры іх вызначаў ва ўніверсітэце гістарычны факультэт. Ініцыятарам і праваднікам беларускага адраджэння на факультэце ў гэты складаны пераходны перыяд стаў намеснік дэкана, а з 1991 да 1996 г. – яго дэкан Пётр Аляксеевіч Шупляк, 70-годдзе якога нядаўна адзначыла навукова-педагагічная грамадскасць[1].

Менавіта П. А. Шупляк прычыніўся да першых спроб асэнсавання і публічнага асвятлення тых перамен, апублікаваўшы ў 1993 г. артыкул аб праблемах выкладання гісторыі Беларусі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце за часы яго існавання. У ім з асаблівай увагай ацэнены разглядаемы намі перыяд «змянення навучальна-выхаваўчага і навукова-даследчага працэсу на гістарычным факультэце» дзеля стварэння «ўмоў для разумення беларусамі сябе ў якасці суб'екта агульнаеўрапейскага і сусветнага гістарычнага працэсу»[2]. Ужо праз колькі гадоў наступны «вопыт успамінаў і асэнсавання пераломнага часу» быў абагульнены ім у 2009 г. разам з А. А. Яноўскім[3]. У абодвух выпадках асаблівая ўвага звярталася на ўздым

грамадска-палітычнай актыўнасці студэнцкай моладзі, на арганізацыю беларускамоўнага выкладання і справаводства, перагляд вучэбных планаў, змяненне кафедральнай структуры факультэта і адкрыццё новых спецыяльнасцей, на неабходнасць зрухаў у навуковых даследаваннях. Але гэтым паказ тагачаснага шматграннага жыцця факультэта не вычэрпваецца, асабліва ўлічваючы важнасць яго вопыту для разумення сучаснай сітуацыі і вызначэння перспектыў гістарычнай адукацыі ў БДУ і краіне ў цэлым.

Аўтары дадзенага артыкула самі ўдзельнічалі ў апісваемых працэсах як намеснік дэкана (А. А. Яноўскі) і старшыня суполкі беларускай мовы (У. А. Сосна), таму прыведзеныя звесткі ўзяты пераважна з асабістых архіваў і грунтуюцца таксама на ўспамінах і ўражаннях аб тым незабыўным часе. Нагодай для падрыхтоўкі артыкула стаў 80-гадовы юбілей гістфака, калі хочацца падвесці некаторыя вынікі і асэнсаваць галоўныя этапы яго няпростага шляху.

Працэсы нацыянальнага адраджэння найперш праявіліся ў моўнай сферы. У 1989 г. з ініцыятывы П. А. Шупляка была створана суполка Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны выкладчыкаў і супрацоўнікаў гістарычнага факультэта, у якое запісаліся 33 чал. Згодна са Статутам гэта добраахвотная арганізацыя першаступеннай задачай мела адраджэнне ў духоўным жыцці народа беларускай мовы і праз яе – усёй нацыянальнай культуры[4]. З гэтага часу мерапрыемствы па беларусізацыі факультэта праводзіліся з удзелам актыўных сяброў суполкі.

Устаноўчы сход Таварыства беларускай мовы ў БДУ адбыўся 1 лістапада 1989 г. у актавай зале галоўнага корпуса, што месціўся на тагачаснай плошчы імя Леніна. Яго арганізатары звярнуліся да ўніверсітэцкай супольнасці з заклікам, наследуючы традыцыі Францыска Скарыны, вывучаць беларускую мову, карыстацца ёю ў штодзённым жыцці, забяспечваць умовы для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове. Выказвалася спадзяванне, што беларускае слова загучыць на поўную сілу ў сценах нашага ўніверсітэта, а сам БДУ ператворыцца ў сапраўдны беларускі нацыянальны культурны, асветніцкі і навуковы цэнтр. Пры гэтым абвяшчаўся прынцып: «Без прымусу – мову беларусу!»

Першапраходцам у справе патрыятычнага адраджэння на факультэце па зразумелых прычынах стала кафедра гісторыі БССР (загадчык – прафесар А. П. Ігнаценка). Кафедра 24 кастрычніка 1989 г. правяла (адказны – дацэнт Я. Ю. Несцяровіч) Дзень Таварыства беларускай мовы. На чацвёртым паверсе галоўнага корпуса загучалі беларускія песні, а на лекцыях разам з гісторыкамі прысутнічалі студэнты з іншых факультэтаў. У памяшканні кафедры былі разгорнуты выставы кніг па гісторыі і мастацтву Беларусі, кніжныя гравюры XVI–XVIII стст. Свята сабрала вялікую зацікаўленую аўдыторыю, на сустрэчу з якой прыйшлі вядомыя вучоныя-беларусазнаўцы з Акадэміі навук – А. І. Жураўскі, Л. М. Лыч, В. А. Чамярыцкі[5]. Выкладчыкі кафедры, а іх тады было 9 чал. (у тым ліку і цяперашні дэкан С. М. Ходзін), аказаліся моцна запатрабаванымі не толькі ў выкладанні айчыннай гісторыі на гістарычным і іншых факультэтах універсітэта, але і прапагандзе гістарычнай спадчыны Беларусі сярод насельніцтва рэспублікі па лініі таварыства «Веды», у медыях, многіх працоўных калектывах, на прадпрыемствах. У былым Інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадазнаўчых дысцыплін пры БДУ (зараз Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы) з удзелам прадстаўнікоў факультэта распачаліся курсы па авалоданні айчыннай спадчынай калегамі з кафедр гісторыі камуністычнай партыі, вывучэнне якой згортвалася. Каб задаволіць узрастаўшую цікавасць грамадскасці да сваёй гісторыі, уласных каранёў і вытокаў, выкладчыкі штогод чыталі па-за межамі БДУ 80–100 лекцый, нярэдка прымалі ўдзел у адкрыцці і працы выстаў, тэматычных вечароў, круглых сталоў, правядзенні дыскусій і інш. Для студэнтаў жа ў пазааўдыторны час арганізоўвалася дэманстрацыя кінафільмаў, такіх як «Еўфрасіння Полацкая», «Загадка Францішка Скарыны», «Кастусь Каліноўскі».

Вялікую зацікаўленасць выклікала ўсеагульнае абмеркаванне Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР», у прэамбуле да якога сцвярджалася: «У Беларусі здаўна жылі людзі розных нацыянальнасцей, гучалі розныя мовы. Аднак у выніку адыходу ад ленінскай нацыянальнай палітыкі сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі. Такую сістэму аховы дазваляе стварыць толькі наданне беларускай мове статусу дзяржаўнай мовы Беларускай ССР»[6].

З гэтай нагоды пад старшынствам дэкана Э. М. Загарульскага адбыўся сход выкладчыкаў гістарычнага факультэта, на якім гучалі розныя, часам процілеглыя думкі, але практычна ўсе згаджаліся з неабходнасцю прыняцця закона. Вынікам абмеркавання стала наступная рэзалюцыя, адпраўленая 18 студзеня 1990 г. у вучэбны аддзел універсітэта: «У цэлым ухваліць і падтрымаць праект закона аб мовах у Беларускай ССР і прасіць Вярхоўны Савет рэспублікі прыняць яго за аснову». На сходзе ўзніклі рознагалоссі па статусу дзяржаўнай мовы: 11 чал. прагаласавалі за наданне статусу дзяржаўнай толькі беларускай мове, 29 чал. – беларускай і рускай мовам. 26 студзеня 1990 г. закон быў прыняты і яго належала выконваць.

На працягу 1991–1994 гг. калектыў універсітэта і найперш яго гуманітарных падраздзяленняў працаваў над ажыццяўленнем мер, зацверджаных Вучоным саветам БДУ 21 кастрычніка 1991 г., па выкананні Закона аб мовах у Беларускай ССР і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР, сутнасць і змест якіх зводзіліся да наступнага: «Стварыць у складзе навукова-метадычнага савета ўніверсітэта секцыю па метадычным забеспячэнні пераходу да выкладання на беларускай мове. У 1992 г. стварыць беларускамоўныя плыні на геаграфічным, юрыдычным, фізічным, матэматычным, біялагічным, хімічным факультэтах. Да 1995 г. перавесці на беларускую мову

выкладанне ўсіх вучэбных дысцыплін на педагагічных аддзяленнях, факультэтах журналістыкі, юрыдычным. У 1991/92 навучальным годзе кафедрам беларускай мовы і літаратуры сумесна з кафедрамі факультэтаў распрацаваць неабходныя тэрміналагічныя руска-беларускія слоўнікі. Разглядзець пытанне аб неабходнасці стварэння для вырашэння гэтых жа задач лінгвістычнай лабараторыі пры філалагічным факультэце. Да 1 лістапада 1991 г. распрацаваць праграму выдання на беларускай мове падручнікаў, вучэбна-метадычных дапаможнікаў. З 1 студзеня 1992 г. перавесці справаводства на беларускую мову. З 1992 г. увесці курсавы экзамен на валоданне беларускай мовай на ўсіх педагагічных аддзяленнях. Распрацаваць план перападрыхтоўкі выкладчыкаў з мэтай пераходу іх на выкладанне сваіх дысцыплін на беларускай мове. Групы па перападрыхтоўцы ствараць з улікам стану валодання беларускай мовай. Пры атэстацыі і праходжанні па конкурсе ўлічваць валоданне беларускай мовай»[7].

На гістарычным факультэце праводзілася адпаведная растлумачальна-прапагандысцкая работа сярод выкладчыкаў, студэнтаў і супрацоўнікаў аб асноўных палажэннях і мэтах моўнай палітыкі дзяржавы, дзякуючы чаму ў калектыве склалася разуменне неабходнасці спакойнага, але паслядоўнага вырашэння моўнай праблемы ў падрыхтоўцы кадраў гістарычнага профілю. Гістарычны факультэт стаў піянерам не толькі ва ўніверсітэце, але і ў рэспубліцы, стварыўшы з 1990/91 навучальнага года беларускамоўную плынь падрыхтоўкі гісторыкаў, якая спачатку ўключала 50, а пасля і больш студэнтаў. Беларуская мова прыйшла як мова выкладання і на новыя аддзяленні – архівазнаўства і музеязнаўства, а таксама міжнародных адносін, адчыненыя ў 1992 г. Гэты поспех стаў шырокавядомы і прызнаны грамадскасцю краіны, пацвярджэннем чаго з'явілася ўшанаванне дэкана П. А. Шупляка сярод найбольш заслужаных руплўцаў беларускага слова на ўрачыстым пасяджэнні ТБМ у Доме літаратара 11 сакавіка 1994 г.

Разам з тым дастаткова адчувальнымі былі праблемы ў пераходзе да беларускамоўнага выкладання ў поўным аб'ёме. Рэальна беларуская мова выкарыстоўвалася пры правядзенні заняткаў па ад палова да двух трацін вучэбных дысцыплін. Не ўсе выкладчыкі ў належнай ступені валодалі «матчынай мовай», не так проста было перайсці на яе з-за нераспрацаванасці навукова-моўнага апарату і інш. Сталі відавочнымі недапрацоўкі як факультэцкіх, так і агульнаўніверсітэцкіх кафедр. Напачатку няпроста было і студэнтам, бо многія з іх, асабліва тыя, якія скончылі савецкія школы ў гарадах, не авалодалі мовай па прычыне вызвалення ад яе навучання. Наогул, пакуль беларуская мова не набыла статусу дзяржаўнай, выкладчыку ў аўдыторыі практычна заўсёды трэба было пераконваць тых, хто не разумеў ці не хацеў слухаць беларускамоўных лекцый, дзеля чаго прыходзілася спасылацца на адпаведныя «перабудовачныя» партыйныя матэрыялы, у прыватнасці на выказванне Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, што без ведання сваіх каранёў і вытокаў народ бязродны, а значыць, і бездухоўны. Між тым сярод факультэцкага студэнцтва няўхільна нарасталі шэрагі прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння і павялічвалася запатрабаванасць роднай мовы.

Сур'ёзна паўсталі пытанні метадычнага забеспячэння беларускамоўнага навучальнага працэсу. Па ініцыятыве Міністэрства адукацыі была разгорнута падрыхтоўка «сваіх», беларускіх школьных падручнікаў. І выкладчыкі факультэта (прафесары І. В. Аржахоўскі, У. С. Кошалеў, У. Н. Сідарцоў, В. А. Фядосік, дацэнты Г. І. Даўгяла, І. А. Еўтухоў, П. А. Лойка, К. А. Равяка, В. І. Сініца, П. А. Шупляк, А. А. Яноўскі) прынялі чынны ўдзел у іх напісанні, у распрацоўцы новай канцэпцыі выкладання гісторыі ў школах рознай ступені. Згадаем, што толькі падручнік па гісторыі БССР раней быў распрацаваны самімі беларускімі гісторыкамі (Л. С. Абэцэдарскі і інш.), а ў 1989 г. яго другі варыянт (па «гісторыі БССР дасавецкага часу») падрыхтавалі М. П. Баранава, Э. М. Загарульскі і Н. Г. Паўлава. Ён выйшаў на рускай і (у перакладзе) на беларускай мовах. Што датычыць падручнікаў універсітэцкага ўзроўню, а тым больш беларускамоўнай навучальнай літаратуры, то да іх стварэння тады толькі падступаліся. Да пачатку некаторымі кафедрамі была праведзена значная праца па падрыхтоўцы і выданню беларускамоўных праграм гістарычных курсаў, стваралася метадычнае суправаджэнне выкладання асобных тэм. Напрыклад, у 1991 і 1996 гг. выходзілі створаныя на факультэце і зацверджаныя Міністэрствам адукацыі новыя варыянты праграмы курса «Гісторыя Беларусі» для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасці «Гісторыя». Новая вучэбна-метадычная літаратура адлюстроўвала не толькі апошнія навуковыя дасягненні і падыходы, але і беларускі погляд на сусветную і айчынную гісторыю.

Адбываліся зрухі ў пашырэнні сферы функцыянавання беларускай мовы і нацыянальна-культурных традыцый у жыцці факультэта, асяроддзі студэнтаў і выкладчыкаў. Па-беларуску сталі афармляцца расклад заняткаў і наглядна-афіцыйная інфармацыя, часткова весціся справаводства, выходзілі насценныя газеты. Родная мова загучала на пасяджэннях дэканата, Вучонага савета, кафедр, грамадскіх арганізацый, пры правядзенні розных мерапрыемстваў. І на калідорах будынка факультэта па вул. Чырвонаармейскай, 6 у прыватных гутарках стала амаль што натуральным чуць гучанне мовы беларусаў.

Калектыў гістфака без асаблівых сумненняў і дыскусій вызначыў, што важнейшым фактарам патрыятычнага выхавання студэнтаў і падрыхтоўкі іх як будучых спецыялістаў павінна стаць пашырэнне выкладання нацыянальнай гісторыі і ўвядзенне новых беларусазнаўчых дысцыплін. З 1995/96 навучальнага года выкладанне гісторыі Беларусі павялічылася да пяці, а пазней і шасці семестраў. Тады ўзнікла традыцыя (яе трымаецца факультэт і сёння) лекцыямі па гэтай дысцыпліне, якая займела статус важнейшай на факультэце, распачынаць 1 верасня, адкрываючы Дзень ведаў. У вучэбныя планы былі ўведзены асобныя курсы гістарыяграфіі гісторыі Беларусі, крыніцазнаўства гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай культуры, гістарычнага краязнаўства Беларусі, археалогіі Беларусі, этнаграфіі

Беларусі. Ужо з 1987/88 навучальнага года рашэннем Вучонага савета БДУ вывучэнне гісторыі Беларусі ўводзілася для ўсіх педагагічных спецыяльнасцей універсітэта. Зразумела, у значна меншым аб'ёме, чым на гістфаку, але дастатковым для таго, каб універсітэцкі выпускнік змог спасцігнуць і, галоўнае, асэнсаваць беларускую гісторыю не на школьным, а вышэйшым узроўні. Выкладанне гэтага курса забяспечвалася факультэцкай кафедрай гісторыі Беларусі, на базе якой у 1994 г. былі ўтвораны дзве кафедры: гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў (загадчыкам стаў запрошаны з Інстытута гісторыі АН Беларусі выпускнік факультэта кандыдат гістарычных навук П. А. Лойка) і гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу (загадчык – прафесар П. І. Брыгадзін). Беларускі ўхіл быў характэрны і для іншых кафедр, у тым ліку новых – крыніцазнаўства і музеязнаўства (загадчык – прафесар У. Н. Сідарцоў) і міжнародных адносін (загадчык – прафесар А. В. Шарапа).

Прынцыповыя змены адбываліся ў змесце выкладання. Новае студэнцтва патрабавала раскрыцця «белых плям» і спрэчных праблем у гісторыі беларусаў, такіх як іх этнагенез, вытокі беларускай дзяржаўнасці, утварэнне і станаўленне Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, вытокі і характар беларускага нацыянальнага руху, уздым і трагедыя грамадска-палітычнага жыцця БССР у 1920–30-х гг., пытанні геральдыкі і сімволікі і інш. Яно больш не цярпела вульгарызатарскіх догмаў і прымітыўных схем, што захаваліся ад папярэдніх савецкай і імперскай гістарыяграфій. Надзвычай адказнай, але і адначасова творчай станавілася праца выкладчыка, які праз рыфы многіх яшчэ не распрацаваных навукай праблем беларускай спадчыны павінен быў весці да яе карабель пазнання.

Тым часам у краіне актывізавалася навукова-гуманітарнае жыццё. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, яно перажывала сапраўдны рэнесанс, пазбаўляючыся ідэалагічна-цэнзурных путаў. У 1988–1989 гг. беларускія гісторыкі правялі тэматычныя сустрэчы ў форме круглых сталоў, дзе былі разгледжаны найбольш праблемныя пытанні айчыннай гісторыі. Дзве такія сустрэчы, прысвечаныя паходжанню беларусаў і вырашэнню нацыянальнага пытання ў Беларусі, праходзілі на гістарычным факультэце БДУ з удзелам яго выкладчыкаў[8]. У ходзе абмеркаванняў і палкіх дыскусій выявілася кола пытанняў, якія патрабавалі асвятлення праз супрацьпастаўленне розных падыходаў і ацэнак. А гэта і вызначала сэнс гісторыі як навукі. У галоўным жа, што было асабліва відавочным, амаль усімі выказвалася перакананне, што «толькі ачышчаная ад фальсіфікатарскіх і апалагетычных наслаенняў гісторыя можа быць настаўнікам для сучаснага пакалення, якое шукае шляхі грамадскай перабудовы»[9]. Улічваючы не толькі навуковы, але і шырокі грамадскі інтарэс, матэрыялы круглых сталоў аператыўна друкаваліся ў газеце «Звязда», а некаторыя перадрукоўваліся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і нават у беластоцкай «Ніве»[10].

Навуковая думка разняволілася. Не стала забароненых тэм і сюжэтаў, што праявілася ў змяненні даследчыцкай праблематыкі кафедр і выкладчыкаў гістарычнага факультэта, пошуках новых дакументаў і матэрыялаў не толькі ў айчынных, але і замежных архівах і бібліятэках, актывізацыі ўдзелу ў рэспубліканскіх і міжнародных навуковых канферэнцыях, пашырэнні спектра публікацый[11]. Асаблівая ўвага звярталася на палітычную гісторыю Беларусі, гісторыю нацыянальнага руху, дзяржаўнасці, канфесій, этнакультурных працэсаў на беларускіх землях. Навукоўцы адкрыта павярнуліся да «ачалавечвання» гісторыі, шырокага і ўсебаковага разгляду ў ёй усіх без выключэння саслоўных станаў і сацыяльных груп насельніцтва. Найперш гэта датычылася свядома замоўчваемай у савецкі час шляхты – носьбіта палітычнага жыцця феадальнай эпохі на беларускіх землях. Сталася магчымым нават паставіць праблему месца і ролі ў палітычным жыцці сялянства. Пакрыху набірала тэмп «інтэлектуальная гісторыя», даследаванне якой раней было амаль што пад забаронай, бо савецкія ўлады не маглі сабе дазволіць акцэнтаваць увагу на ролі і месцы элітарнай часткі грамадства нават у навукова-адукацыйнай сферы, не гаворачы пра палітычную.

Развіццё і разнастайнасць навуковых доследаў ва ўмовах дэмакратызацыі грамадства выклікала з'яўленне новых арганізацыйных структур. На факультэце запрацавала навукова-даследчая лабараторыя па праблемах гісторыі і культуры Беларусі (загадчык – дацэнт А. Г. Каханоўскі). Асобныя выкладчыкі сталі сябрамі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ), што спрыяла адкрыццю новых кантактаў з замежнымі навукоўцамі. Прарыўным у гэтым плане мерапрыемствам можна лічыць Першую беларуска-польскую канферэнцыю гісторыкаў «Беларуска-польскія сувязі ў перыяд Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай» (Мінск, 22–23 сакавіка 1991 г.), ключавую ролю ў арганізацыі якой адыграў выхаванец гістфака, яго былы выкладчык і намеснік дэкана, а тады намеснік старшыні праўлення Таварыства беларуска-польскай дружбы дацэнт Л. В. Лойка.

Адкрылася рэальная магчымасць праходжання стажыровак у вядучых навуковых і навучальных цэнтрах іншых краін і прыёму ў сябе замежных гасцей. Факультэт стаў цэнтрам і апірышчам Беларускай асацыяцыі гісторыкаў (БАГ), якая была створана падчас Першай Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў, арганізаванай факультэтам і Інстытутам гісторыі АН Беларусі і прайшоўшай у аўдыторыях гістфака 3–5 лютага 1993 г. Праз год у яе шэрагах налічвалася 224 чал. з усіх абласцей краіны. Статут гэтага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання быў зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 27 мая 1994 г. Мэты дзейнасці БАГ былі вызначаны наступныя: садзейнічанне развіццю фундаментальных даследаванняў па гісторыі Беларусі і ўсеагульнай гісторыі, удзел у распрацоўцы і ажыццяўленні прыярытэтных даследаванняў па асноўных праблемах гістарычнай навукі. Кіруючым органам з'яўлялася Рада, а прэзідэнтам Асацыяцыі быў абраны П. А. Шупляк. Дарэчы, ён і прафесар

У. С. Кошалеў на згаданай вышэй Усебеларускай канферэнцыі выступілі з грунтоўнымі дакладамі аб праблемах і магчымых шляхах іх вырашэння як пастаноўкі гістарычнай адукацыі ў ВНУ, так і даследавання сусветнай і айчыннай гісторыі[12].

Факультэт у 1994 г. сустракаў сваё 60-годдзе як ніколі ўзрослы колькасна і якасна. На гістарычным аддзяленні, аддзяленнях музеязнаўства і архівазнаўства, міжнародных адносін навучалася каля 700 студэнтаў. Прыкладна столькі ж студэнтаў вучыліся і на завочнай форме. Дзейнічала 9 кафедр: гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў, гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу, расійскай і славянскай гісторыі, новай і найноўшай гісторыі славянскіх краін, гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў, гісторыі новага і найноўшага часу; археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін; крыніцазнаўства і музеязнаўства, міжнародных адносін. Вучэбны працэс і навуковыя даследаванні ажыццяўлялі 13 прафесараў, 49 дацэнтаў, 9 старэйшых выкладчыкаў і выкладчыкаў. Большасць з іх з'яўляліся выпускнікамі факультэта. Запрацавалі лабараторыі інфарматыкі і тэхнічных сродкаў навучання. Створаная яшчэ ў 1927 г. і карэнным чынам зменeная ў 1970-я гг. багатая экспазіцыя гістарычнага музея падчас пераезду гістфака на сваю «гістарычную радзіму», у «Дом № 1 БДУ», была ў каторы раз пераасэнсавана яе куратарамі – прафесарамі В. Н. Рабцэвічам і Э. М. Загарульскім. Музейныя аддзелы археалогіі, нумізматыкі, этнаграфіі, гісторыі старажытнага свету, айчыннага мастацтва ў значнай ступені былі сарыентаваны менавіта на дэманстрацыю беларускай спадчыны, яе гістарычных рарытэтаў. У экспазіцыю ўвайшлі ўнікальныя экспанаты, аналагаў якім няма ў краіне. Пад навуковым наглядам гісторыкаў, зразумела, застаўся імі ж і створаны на плошчах галоўнага корпуса ўніверсітэта музей гісторыі БДУ.

Цікавай з'явай факультэцкага жыцця стала функцыянаванне пры ім школы юных гісторыкаў, дзе вучні старэйшых класаў слухалі лекцыі выкладчыкаў, пісалі рэфераты і выступалі з дакладамі, удзельнічалі ў штогадовых канферэнцыях навукова-тэхнічнага таварыства навучэнцаў г. Мінска, гарадскім конкурсе на лепшую навуковую работу старшакласнікаў «Прырода. Навука. Чалавек»[13]. Факультэт уплываў на сярэднюю школу праз сваіх выпускнікоў, якія працавалі там, выкладалі гісторыю і грамадазнаўства, неслі ідэі адраджэння вучнёўскай моладзі.

Падсумоўваючы, можна сцвярджаць, што ажыццёўленыя ў тыя гады пераўтварэнні на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адкрылі новыя далягляды ў педагагічнай, навуковай, грамадска-культурнай дзейнасці не толькі нашай alma mater. Гэтыя пераўтварэнні сталі магчымымі дзякуючы як аб'ектыўнаму фактару дасягнення Беларуссю незалежнасці, так і мэтанакіраваным дзеянням прафесарска-выкладчыцкага складу, студэнтаў і супрацоўнікаў. Яны ў сваёй аснове вытрымалі выпрабаванне часам і захавалі перспектыву, якая, як і тады, бачыцца ў паглыбленні ў беларусах іх патрыятызму, заснаваным у першую чаргу на грунтоўных і асэнсаваных гістарычных ведах.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Ходзін С., Яноўскі А., Каханоўскі А., Фядосік В., Сосна У. Адзін з арганізатараў новай парадыгмы вышэйшай гістарычнай адукацыі (да 70-годдзя з дня нараджэння Пятра Аляксеевіча Шупляка) // Беларус. гіст. часоп. 2013. № 8. С. 36–40.
[2] Гл.: Шупляк П. А. Гісторыя Беларусі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (некаторыя праблемы выкладання) // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 1993. № 2. С. 75.
[3] Гл.: Шупляк П. А., Яноўскі А. А. Гістарычны факультэт БДУ ў працэсах нацыянальнага адраджэння 1990-х гг. // Российские и славянские исследования. Минск, 2009. Вып. 4. С. 356–366.
[4] Гл.: Статут Таварыства беларускай мовы // Настаўн. газ. 1989. 8 ліп.
[5] Гл.: Міхневіч З. Гэты дзень быў незвычайным // Беларускі універсітэт. 1989. 2 лістап.
[6] Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб мовах у Беларускай ССР» (праект) // Чырв. змена. 1989. 9 снеж.
[7] Цыт. па: Дубіна Ю. Універсітэт усё шукае сваё месца… // Літ. і мастацтва. 1991. 29 снеж.
[8] Гл.: Перабудова і міжнацыянальныя адносіны – Перестройка и межнациональные отношения / склад. А. У. Русецкі. Мінск, 1989. С. 95–130.
[9] Загарульскі Э., Круталевіч В., Хацкевіч А. Да чытача // На скрыжаванні думак: Вучоныя аб «белых плямах» гісторыі Беларусі / склад. Я. І. Бараноўскі. Мінск, 1990. С. 9.
[10] Гл.: Звязда. 1988. 29 ліп., 30 жн. ; Літ. і мастацтва. 1988. 29 ліп. ; Ніва. 1988. 11 верас.
[11] Гл.: Бібліяграфічны даведнік навуковых работ супрацоўнікаў гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (1921–1924 гг.). Мінск, 1994. С. 160–203.
[12] Гл.: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы) : тэз. дакл. і паведамл. Усебеларус. канф. гісторыкаў. Ч. 2. Сусветная гісторыя (Мінск, 3–5 лют. 1993 г.). Мінск, 1993. С. 3–10.
[13] Гл.: Коваленко Г. П. Юным талантам приоритет развития. Минск, 1990. С. 88–90, 148–149.

Паступіў у рэдакцыю 16.12.2013.

***Уладзімір Аркадзевіч Сосна*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў.
***Алег Антонавіч Яноўскі*** – кандыдат гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Расіі.